# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (226)
сакавік 2021



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**

## У Мінску прайшоў вечар памяці Міколы Равенскага

12 сакавіка ў Мінску ў культурніцкай прасторы "Вір" прайшоў арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" вечар, прысвечаны ўганараванню памяці слыннага беларускага кампазітара, аўтара гімна "Магутны Божа" Міколы Равенскага.

Старонка 2

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ



Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



# "ЁН РОБІЦЬ МІЛЬЁН КАРЫСНЫХ СПРАЎ НЕПУБЛІЧНА"

Дырэктар гродзенскага "Цэнтра гарадскога жыцця", сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Павел Мажэйка трое сутак прабыў за кратамі па абвінавачанні ў рэабілітацыі нацызму, але 29 сакавіка выйшаў на волю.

Следчыя не пабачылі падстаў для пакідання менеджара культуры ў зняволенні. Справа была заведзеная паводле факта выстаўлення ў "Цэнтры гарадскога жыцця" карціны Алеся Пушкіна, на якой быў намаляваны антысавецкі партызан з Пастаўскага раёна Аўген Жыхар.

Хто ж такі Павел Мажэйка, які змог стварыць такі моцны грамадскі асяродак у абласным цэнтры?

Калі паглядзець на фота, то мала хто паверыць, што Паўлу далёка не 25 або 30 гадоў, яму 42. Нарадзіўся ў Гродне. Увесь ягоны род з абодвух бакоў паходзіць з Гродзенскага раёна. Мабыць, таму для Паўла заўжды так важна было дзейнічаць менавіта ў сваім горадзе, а не ў Мінску, Варшаве ці дзесьці яшчэ.

Бацькі ў Мажэйкі – звычайныя працоўныя людзі: мама працавала на кансервавым заводзе, перабірала рукамі гародніну, пабыла і ў гандлі, бацька ж працаваў у Дэпартаменце аховы, але быў вымушаны сысці адтуль пасля першага зняволення сына.

Мажэйка вучыўся на гістарычным факультэце Гродзенскага ўніверсітэта, але жыццё звязаў з журналістыкай. Ён адзін са шматлікіх выпускнікоў мясцовай Школы маладога журналіста. Мабыць, мала хто з гродзенскіх журналістаў не прайшоў праз яе, а потым не ўладкаваўся ў газету "Пагоня" Міколы Маркевіча. Гэта было хай і найперш рэгіянальнае выданне, але прадавалася яно па ўсёй краіне.

У 2001 годзе, у часе прэзідэнцкай кампаніі, на Маркевіча і Мажэйку была заведзеная крымінальная справа за паклёп на кіраўніка краіны. Літаратуразнаўчая экспертыза тройчы засведчыла, што ў публікацыях "Пагоні" адсутнічаў паклёп, але гэтага было мала для суддзі. У выніку Маркевіч атрымаў 2,5 гады абмежавання волі, а Мажэйка – два гады. Міжнароднымі арганізацыямі журналісты былі прызнаныя вязнямі сумлення.

Павел Мажэйка ў апошнім слове гаварыў пра выбар журналіста: "Чалавек, журналіст, на мой погляд, можа быць карысным сваёй бацькаўшчыне толькі тады, калі здымае ружовыя акуляры, ясна бачыць радзіму, ясна бачыць яе праблемы і адкрыта гаворыць і піша пра гэта. Артыкул тут ні пры чым. Артыкул – гэта толькі падстава. Два гады зняволення – гэта зусім за іншае. Гэта за тое, што мы выконвалі свой журналісцкі абавязак. Гэта за тое, што ёсць яшчэ газеты ў Беларусі, якія не баяцца падымаць на сваіх старонках вострыя тэмы; гэта за тое, што ёсць яшчэ журналісты, якія гатовыя асвятляць гэтыя вострыя тэмы".

Працяг на старонцы 3.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# У Мінску прайшоў вечар памяці Міколы Равенскага

12 сакавіка ў Мінску ў культурніцкай прасторы "Вір" прайшоў арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" вечар, прысвечаны ўганараванню памяці слыннага беларускага кампазітара, аўтара гімна "Магутны Божа" Міколы Равенскага (5 снежня 1886 – 9 сакавіка 1953).

Гімн "Магутны Божа" сёлета стаў адным з самых часта выканальных і папулярных беларускіх музычных твораў. На ўсплёск цікаўнасці да творчасці кампазітара вядомыя даследчыкі гісторыі беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч зрэагавалі тым, што пры канцы мінулага года выступілі ініцыятарамі выдання біяграфічнай кнігі "Мікола Равенскі" (укладальнік – Лявон Юрэвіч), якая акрамя ўспамінаў людзей, якія блізка ведалі кампазітара, утрымлівае таксама і нотны запіс гімна.

На пачатку імпрэзы даследчыца беларускай эміграцыі, навуковая рэдактарка кнігі "Мікола Равенскі" Наталля Гардзіенка выступіла з дакладам аб жыцці і творчасці Міколы Равенскага, адкуль прысутныя маглі даведацца або ўзнавіць у памяці асноўныя падзеі біяграфіі кампазітара, атрымаць уяўленне пра ягоныя выключныя чалавечыя якасці, характар і тую напраўду вялізную ролю, якую адыгрывала музыка, асабліва народная, у ягоным жыцці. Асаблівы акцэнт дакладу быў зроблены на формы ўганаравання і захавання памяці пра кампазітара.

Выдавец Зміцер Санько, які не адзін год супрацоўнічае з калектывам даследчыкаў беларускай музыкі "Беларуская капэла" і займаецца выданнем поўнага збору твораў Міколы Равенскага, распавёў пра цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца падчас падрыхтоўкі да выдання ягонай спадчыны. Напрыклад, пра тое, што праз пажар з усёй створанай аўтарам гімна "Магутны Божа" музыкі захавалася блізу 8%, але затое грунтоўнае даследаванне беларускіх народных песень існуе




Наталля Гардзіенка ўручае ўзнагароду БІНіМ Ганне Севярынец

ажно ў шасці версіях.

Ганна Севярынец, аўтарка прадмовы да кнігі "Мікола Равенскі", падзялілася сваімі назіраннямі аб паўстанні маштабнага запыту на беларушчыну ў маладых людзей, якія сёння менавіта там шукаюць надзею, апірышча і план дзеянняў, а таксама дадала, што гэты працэс успыхнуў не толькі ў шматлікіх асяродках Беларусі, ад дваровых супольнасцей да мясцовых аддзяленняў сусветных карпарацый, але і ў беларускай дыяспары таксама. Пасля таго, як яна падкрэсліла, што любое, нават самае малое зерне, кінутае ў беларускую справу, не сёння дык заўтра прарастае і дае ўмалот, Наталля Гардзіенка ўручыла ёй узнагароду Беларускага інстытута навукі і мастацтва за спрыянне папулярызацыі спадчыны беларускай эміграцыі.

Пры канцы імпрэзы Андрусь Такінданг з Ігарам Асідчанкам праспявалі дуэтам песні з рэпертуару гурта "Рэха", якія карысталіся ў гэтым сезоне найбольшай папулярнасцю падчас вулічных канцэртаў.

Падчас імпрэзы была прэзентаваная наступная кніга з "гімнавай" серыі – "Макар Краўцоў (Касцевіч)", прысвечаная аўтару гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (укладальнік – Лявон Юрэвіч, навуковая рэдактура – Наталля Гардзіенка). Гэта першая спроба стварэння біяграфіі гэтага творцы, надзвычай захапляльнай праз тое, што апошні, як выявілася, меў не абы-якія схільнасці да авантур.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

# Яўген Вапа: улады ў Беларусі мэтанакіравана знішчаюць усе незалежныя асяродкі

Апошнім часам адбываецца жорсткі ціск на не прызнаны ўладамі Саюз палякаў у Беларусі. Пра гэта размаўляем з Яўгенам Вапам – старшынёй Беларускага саюза ў Польшчы – арганізацыі, якая аб'ядноўвае беларускую нацыянальную меншасць у Польшчы.

**РР: Як нам, нацыянальнай меншасці ў Польшчы, ставіцца да таго, што зараз адбываецца з палякамі ў Беларусі?**

**Яўген Вапа:** З прыходам Аляксандра Лукашэнкі да ўлады цярпяць усе грамадзяне Беларусі. У тым ліку і польская нацыянальная меншасць. Нацыянальныя меншасці становяцца закладнікамі палітыкі, якая мае паказаць, што з дыктатарам трэба размаўляць на ягоных умовах.

**РР: Калі раней пад праслед траплялі перадусім кіраўнікі польскіх арганізацый у Беларусі, то зараз гэта і школьніцтва, і настаўнікі, нават робіцца нейкія спісы вучняў, якія ходзяць на заняткі ў польскія школы.**

**Яўген Вапа:** Гэта сумная сітуацыя. Не мусіць



быць ні ў адной дзяржаве, каб меншасці становіліся закладнікамі. Распальванне варажнечы паміж палякамі і беларусамі на дзяржаўным роўні выгадна Маскве. Для мяне тое, што адбываецца такое беззаконне ў Беларусі ў дачыненні да ўсіх грамадзян, – гэта страшна. У Беларусі антыдэмакратычная дзяржава для ўсіх. Трэба было сённяшняй уладзе паказаць сілу, яна ўзялася за Саюз палякаў. Тыдзень раней узяліся за журналістаў і за праваабаронцаў. Гэта мэтанакіраваная палітыка, якая мае на мэце знішчыць усе незалежныя асяродкі.

Трэба памятаць, што ў гэтай сітуацыі важную ролю мае падтрымка Польшчы: шэф канцылярыі польскага прэм'ера Міхал Дворчык заявіў, што суддзі, які прысудзілі арышт Анжаліцы Борыс, бестэрмінова забаронены ўезд у Рэспубліку Польшча. То я хацеў бы таксама, каб бестэрміновую забарону на ўезд у Польшчу атрымалі ўсе суддзі, якія незаконна асудзілі беларускіх грамадзян. І каб гэта зрабіў увесь Еўрасаюз.

**РР: Як можам праявіць сваю салідарнасць з палякамі ў Беларусі? Мы ж дакладна ведаем, што значыць быць нацыянальнай меншасцю.**

**Яўген Вапа:** Трэба пра гэта гаварыць. Мы за тое, каб кожная нацыянальная меншасць мела права на сваё развіццё, на сваю асвету, на сваю культурную тоеснасць. Мы гэта цалкам падтрымліваем. Мы не палітыкі. Наша дапамога – адкрыта пра гэта гаварыць і інфармаваць.

Міхал Андрасюк,
"Беларускае Радыё Рацыя"

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "ЁН РОБІЦЬ МІЛЬЁН КАРЫСНЫХ СПРАЎ НЕПУБЛІЧНА"

Працяг са старонкі 1.

У выніку Павел паехаў адбываць пакаранне ў Жлобін, працаваў там на пілараме. Жонка Паўла, журналістка Ірына Чарняўка, згадвае: "У Мінску адкрылася аддзяленне "Маскоўскага камсамольца" і я па заданні "МК" паехала на "хімію" да Мажэйкі і Маркевіча. Тады начальнікі гэтых устаноў правялі мне ледзь не экскурсію, паказалі дзе жывуць вязні, як з імі абыходзяцца. Цяпер жа Паўлу не хацелі нават перадаваць акуляры".

"Павел быў адным з першых палітвязняў у свой час. Салідарнасць была аграмадная. Ён вяртаўся вечарам у свой інтэрнат, і яму ўручалі цэлы пачак лістоў. Міліцыянеры звярталіся да яго па бацьку – Павел Іванавіч, хаця яму на той момант было 24 гады", – кажа Ірына.

Жонка ўспамінае, што ў час "хіміі" апеку над Паўлам узяла жлобінская сям'я Сцяпковых. "Фактычна, яны далі яму ключы ад кватэры. Ён мог прыйсці да іх паспаць, папіць гарбаты, патэлефанаваць, пасядзець за камп'ютарам. Шмат гадоў мы з імі сазвоньваліся. Калі Паша сядзеў на "хіміі", то мабільнікі яшчэ толькі з'яўляліся, сувязь была дарагая, яны мала ў каго былі. Трэба было званіць на вахту і прасіць, каб паклікалі Паўла. Міліцыянеры мяне ўжо ўсе вывучылі: "Чарняўка, ты?" – пыталіся. Кажу, я, хто ж яшчэ. Я лічу, што з людзьмі ў форме заўжды варта размаўляць, яны тады казалі, ну гэта ж "хімія", не так і страшна, а я казала, а калі б вам загадалі страляць у бязвіннага чалавека, то таксама б так рабілі? Тады са мной спрачаліся, цяпер у асноўным маўчаць".

Ірына расказвае пра сваё захапленне Паўлам. "Я ў яго закахалася, яшчэ калі ён надыктоўваў маёй калезе – мы тады з Анджэем Пісальнікам спрабавалі стварыць газету "Рэпарцёр" – сваю дыпломную працу. Я сяджу спінай, думаю, ого, які разумны хлопец, азірнулася – а ён яшчэ і прыгожы!" Адносіны закруціліся, калі ўжо пачаўся крымінальны пераслед. Ірына тады працавала ў незалежнай гродзенскай газеце "Біржа інфармацыі".



"На пілараме пілую я дошкі..." Мажэйка на "хіміі" ў Жлобіне

У Мажэйкаў беларускамоўная сям'я, па-беларуску яны гавораць з жонкай, так выхоўваюць дзяцей. Дачцэ Ніне – 9 гадоў, сыну Юру – 2 гады. Чарняўка гаворыць, што гэта вялікая праблема з адукацыяй, каб навучанне для дзяцей не проста праходзіла па-беларуску, але і было не савецкім па змесце. Дачка вучыцца ў мінскай прыватнай школцы, навучанне адбываецца па індывідуальным плане.

Чаму Мажэйка жыве менавіта ў Гродне? "Жыць трэба ў тым месцы, за якое табе баліць. Калі Паша ствараў "Гродзенскую бібліятэку", то яму прынцыповым было, каб там выдаваліся гродзенскія аўтары, пісьменнікі, што пішуць пра Гродна. У Мінску хапае людзей і без нас".

Калі Павел стварыў "Цэнтр гарадскога жыцця", то стаў даваць пляцоўку ў самым цэнтры Гродна для мастакоў, фатографаў, для курсаў "Мова нанова". Гэта стала ўнікальным месцам, дзе выбудоўвалася сапраўдная грамадзянская супольнасць.

"Мне столькі людзей, якіх я, можа, бачыла адзін раз у жыцці, прапаноўвалі дапамогу, што я проста ўражаная. Таму, напэўна, Павел зрабіў шмат добрага для людзей і горада. Калі казаць пра яго хобі, то яно ў тым, каб гуртаваць вакол сябе людзей. Гэта тое, што ў Паўла атрымліваецца лепш за ўсё".

У перыяд з 2005 па 2007 год Павел Мажэйка працаваў прэс-сакратаром лідара апазіцыі, кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча. "Я ведаў Паўла яшчэ студэнтам, калі ён прыходзіў да нас у "Ратушу", потым журналістам "Пагоні". Калі ж мы складалі штаб і паўстала пытанне прэс-сакратара, то Мажэйку мне падказала Жанна Літвіна. Я кажу: "А ён не замалады?" А Жанна кажа: "Бяры, мо на старэйшага людзі не пойдуць, а да Паўла дакладна пойдуць, бо ён абаяльны". Я быў шчаслівы, што меў такога памочніка, працавалася з ім вельмі лёгка".

Мілінкевіч згадвае гісторыю, як на Дзень Волі – 2006 Мажэйка мог стаць фігурантам крымінальнай справы. "Мы рыхтаваліся да мітынгу ля помніка Купалу, Павел адказваў за гукаўзмацняльную апаратуру. Тады яго забралі ў РУУС, нібыта за супраціў міліцыянтам. Я кінуў усё і паехаў выцягваць Паўла, я нават не ведаў у той момант, што Казулін павёў людзей на Акрэсціна, і мне ўдалося яго выцягнуць.

І хоць у нас такая вялікая розніца ва ўзросце, я магу назваць Паўла сваім сябрам. Я рады, што ў Гродне існуе пераемнасць, і пасля "Ратушы", якую я ўзначальваў, паўстаў "Цэнтр гарадскога жыцця", які гуртуе вакол сябе людзей. Шкадую толькі, што цяпер так рэдка ўдаецца пабываць у Гродне".

Сябра Мажэйкі, сувядоўца праектаў на "Белсаце" Дзмітрый Гурневіч апавядае: "Найбольшыя справы Мажэйкі – непублічныя, пра іх не прачытаеш на старонках газет. Павел не любіць прыцягваць да сябе ўвагу, яго не прымусіш фатаграфавацца. Пры гэтым ён робіць мільён дробных карысных спраў непублічна. Я бачыў, як ён уласнымі грашыма дапамагаў людзям, ён паўтарае, што нікога нельга забываць. Ён дапамагаў ветэранам Адраджэння, якія аказваліся ў цяжкіх умовах, ездзіў да настаўніка Белакоза. Я ніколі не сустракаў чалавека з такой эмпатыяй".

"Я памятаю гісторыю, калі з "Белсата" звольнілі Агнешку Рамашэўскую. Павел адразу ж звольніўся ў знак салідарнасці з ёй, хаця ў яго не было іншых крыніц заробку. Ён вёў перадачу "Госць Белсата", і я ўгаворваў яго прыехаць на здымкі, але ён адмаўляўся. І гэта рабіў толькі таму, што не мог інакш.

Павел вельмі моцна выступае за рэгіяналізм, ён кажа, што ў Мінску і так ёсць каму рабіць, таму і застаецца ў Гродне. Аб ягонай дзейнасці ўвогуле мала хто ведаў, а ён фактычна выконваў працу дзяржаўных інстытутаў".

"Калі ён гаварыў пра "хімію", то ўспамінаў папярэднікаў. Казаў, іх жа расстрэльвалі, саджалі на 25 гадоў, а мне тут толькі падаць на піларамe нейкія жэрдкі – такое адчуванне, што ён нібыта ў піянерскім лагеры быў. Я сам казаў яму: "Можа, варта з'ехаць з Беларусі?" На гэта Павел толькі ўсміхаўся, як умее толькі ён, і адказваў: "Пра што ты ўвогуле гаворыш?"

Паводле Змітра Панкаўца, nn.by



# СЕВЯРЫНЕЦ ПАПРАСІЎ МІТРАПАЛІТА ВЕНІЯМІНА ЗАСТУПІЦЦА ЗА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ

Павел Севярынец напісаў мітрапаліту Веніяміну з просьбай уступіцца за бел-чырвона-белы сцяг, як хрысціянскі сімвал. Пра гэта на сваёй старонцы ў Facebook паведаміла жонка зняволенага Вольга Севярынец.

У 1995 годзе Ніл Гілевіч звярнуўся да мітрапаліта Філарэта з такой жа просьбай – растлумачыць, як ён ставіцца да бел-чырвона-белага сцягу. Філарэт адказаў, што ставіцца станоўча, бо гэта колеры белай плашчаніцы з крывёй Хрыста.

Паводле facebook.com/vola.sieviaryniec

навіны

# 40 ГАДОЎ БЕЗ ПРАВА ЎЕЗДУ Ў КРАІНУ

Адбываецца гэта наступным чынам. Тэлефануюць малазнаёмыя людзі і паведамляюць сакрэтную інфармацыю: "Жах! Вас праслухоўваюць, за вамі сочаць! Вы на кручку ў спецслужбаў! Яны здольныя зрабіць з вамі што заўгодна!" А калі раптам ты не збаяўся, ладзяць сустрэчу з людзьмі "адтуль", якія выразна тлумачаць: на тэрыторыі РФ ты не патрэбны. Затым адмаўляюць у праве на жыхарства, спасылаючыся на ФСБ ці МУС, і праз тыдзень актывіста ўжо няма ў краіне.



Акцыя салідарнасці ў Маскве. Фота: Улад Докшын / «Новая»

Усё гэта – без адзінай паперкі, без пастаноў і пратаколаў. Толькі словы і тэлефанаванні. Староннеяму назіральніку можа падацца, што гэта бязглуздзіца. Што чалавек нешта сам сабе напрыдумляў і раптам з'ехаў. Але гэта не трызненне, гэта спецаперацыя.

Да канца снежня беларусаў, якія выходзілі на акцыі да амбасад у Маскве і Пецярбургу, па вялікім рахунку, ніхто не чапаў. Усё абмяжоўвалася аднакавымі затрыманнямі, ды і тыя можна па пальцах пералічыць. Амаль кожны раз без пратаколаў і штрафаў. Паліцыянты млява прасілі паводзіць сябе на вуліцы спакойна, але ўрэшце нібыта змірыліся з сітуацыяй.

Выходзяць сабе – і няхай, Пуціна ж не лаюць, Навальнага не хваляць. А да Расіі гэтыя акцыі наогул ніякага дачынення не маюць.

Гайкі пачалі закручваць у снежні. Затрымалі 14 беларусаў, якія сабраліся ў цэнтры Пецярбурга, – нібыта праз парушэнне пандэмічных правіл. Прыехаў Цэнтр "Э", хаця незразумела, з якога часу ў нас кавідам займаецца Цэнтр "Э". "Э" – гэта экстрэмізм, а не эпідэмія або "Э, нешта вы мне не падабаецеся". Але прыехалі, пагутарылі, пасля чаго выхады спыніліся. Але ў Маскве выходзілі да канца студзеня, хаця і адчувалася, што хмары згушчаюцца.

У студзені з Ланай Савановіч, каардынатаркай беларускай дыяспары, звязаўся знаёмы адвакат (вельмі далёкі знаёмы). І сказаў, што яе праслухоўваюць, а таксама праглядаюць паводле ключавых словах перапіску. Ёсць, маўляў, такая праграма, што рэагуе на ключавыя словы.

Лана сказала: "Ха-ха!" Тэлефануе нейкі мужык ды вярзе лухту. Няможна да гэтага сур'ёзна ставіцца. Калі яна апавяла мне гэта, я адразу ўспомніў, як нас запалохвалі ў верасні, калі мы з сябрамі рабілі "Партызанфэст" у падтрымку рэпрэсаваных у Беларусі. Тады таксама тэлефанаваў далёкі знаёмы, які нібыта меў сувязі ў сілавых структурах, і казаў, што нас праслухоўваюць, што "там" ведаюць кожны наш крок. І калі мы адважымся зладзіць канцэрт, то прыедуць, усіх павяжуць і павыдзіраюць правады з сеткі. Усё чыста тое самае. З той толькі розніцай, што ў нас пашпарты расійскія, а ў Ланы – рэгістрацыя, і яна нават не мела віду на жыхарства.

У лютым, ужо пасля акцый за Навальнага, яна паехала атрымліваць гэты дакумент. Па тэлефоне ёй сказалі, што ўсё добра, можна прыязджаць. Дый падставы законныя: муж у яе – грамадзянін РФ, дачка таксама грамадзянка.

Яна прыязджае ў Сахарава, якраз у той самы момант, калі туды звозяць з усёй Масквы затрыманых "на Навальным": "Працягваю пашпарт, дзяўчынка адыходзіць і вяртаецца з акругленымі вачыма: "Вам адмова па лініі ФСБ". – "Чаму ФСБ? І што цяпер рабіць?" Навяла даведкі праз знаёмых, тыя сказалі: "Так, гэта праўда. Гаворка ідзе пра пагрозу канстытуцыйнаму ладу РФ, ні больш ні менш. Неадкладна з'язджайце!" Тэлефаную ў "Грамадзянскую помач" (Мінюст прызнаў арганізацыю замежным агентам) да адвакатаў, і яны мне тлумачаць: "У вас максімум два тыдні. Гэтыя справы не аспрэчваюцца, гэта ФСБ, усё бессэнсоўна".

Праз тыдзень яна была ў Польшчы. Чалавек, які бачыў яе дасье, пацвердзіў: так, Лану сапраўды маніторылі, у ФСБ ёсць спіс кантактаў з яе мэсэнджараў. Савановіч, на іх меркаванне, арганізатарка незаконных мітынгаў ля амбасады Рэспублікі Беларусь. Хаця нідзе ніводнага разу пікеты ля амбасады не фігуравалі ў якасці незаконных мітынгаў. Калі яны незаконныя, дык чаму іх паўгода не разганялі? Ды і ніводнага пратакола на Лану не існуе ў прыродзе. Але тым не менш.

А вось як гэта адбывалася з Русланам Хазіным. Руслан – інжынер-электратэхнік з Гродна, калісьці працаваў на прадпрыемстве "Гродна-Азот", тым самым, на якім ладзілі стачкі. У Піцеры – з 2012-га. І ўсё ў яго было файна. Добрая праца, наладжаны побыт. У палітыку ніколі не лез, прычым не толькі ў расійскую, але і ў беларускую таксама. Пратэсным ён зрабіўся 9 жніўня, калі яму не далі прагаласаваць на выбарах, а затым ў Мінску пачаўся гвалт.

Тымі днямі ўсе стыхійным чынам пераэнаёміліся міжсобку, з'явіўся чат "Беларусы Пецярбурга", пачаліся выхады да амбасады. Дарэчы, выхады і пратэсты для Руслана, як і для Ланы, былі наогул не галоўнай і не самай важнай часткай актыўнасці. Галоўным былі дапамога ўцекачам ад Лукашэнкі, матэрыяльная і юрыдычная.

Жытло, дакументы, працаўладкаванне.

Я апавядаю пра гэта так падрабязна, таму што Руслану, мяркуючы па ўсім, шыюць нешта накшталт кіраўніцтва баявой групай па ўказцы з-за мяжы. Адзіная баявая акцыя Руслана – бел-чырвона-белы сцяг над Ісакіем. Гэта адбылося ў лістападзе. Яны з сябрам сустрэлі чарговых бежанцаў, якія ў якасці прэзенту прывезлі ім пяціметровы сцяг. Шпацыравалі па цэнтры і вырашылі сфатаграфавацца на каланадзе Ісакіеўскага сабору. Працягвалася гэта прыкладна хвіліну. Штраф – 10 тысяч. І ўсё, пасля аж да самага да студзеня ўсё было ціха.

А ў студзені – увага! – "прыйшла інфармацыя, што намі цікавіцца МУС Беларусі. І таму нам параілі на некаторы час сцішыцца, не высоўвацца. Я зразумеў, што ў мяне праслухоўваюць тэлефон, былі спробы ўлезці ў мой тэлеграм. Раптоўна змяняліся нейкія наладкі, якія я не чапаў. Мы перайшлі на двухфактарнае шыфраванне, уключылі максімальную канфідэнцыйнасць, пачалі стасавацца праз уключаны VPN. Мінімум інфармацыі па тэлефоне, асноўнае – пры асабістай сустрэчы".

Гэта сапраўды ўдае на канспірацыю. Адчуванне дурное: ты не робіш нічога незаконнага, а за табой усё адно сочаць. І, падобна, сапраўды сачылі.

"У нас у двары звычайна пяцьшэсць машын. Чужых практычна няма. А пасля 23 лютага з'явілася нейкая новая. Тымі днямі былі снегапады па начах, але менавіта ў гэтай машыны заўсёды былі працёртыя вокны, яна такой чысценькай у параўнанні з іншымі стаяла, нібы толькі з гаража. І відэарэгістратар павернуты да майго пад'езда".

Тады ж Руслану заблакавалі пропуск у "Лахта-цэнтр", дзе ён кіраваў электратэхнічнымі працамі. Правялі да ахоўнага офісу – там хлопцы хочуць з вамі пагутарыць. "А я разумею ўжо, што за хлопцы. Паверх цалкам пусты. Ходзяць два мужычкі па калідоры. Прайшлі міма, адзін зайшоў ззаду, устаў каля выхаду на лесвіцу, другі дагнаў нас і кажа начальніку аховы: "Свабодны". Маўляў, ідзі гуляй. А мне ў твар тыкае корачкамі: "Крымінальны вышук. Для вас

не дзіва, што мы вамі цікавімся?" Я кажу: "Калі крымінальны вышук, то дзіва, а калі нейкая іншая служба, дык я прыкладна здагадваюся, пра што вы хочаце пагутарыць".

І сталі канкрэтна цікавіцца, якім чынам я каардыную людзей, ад каго атрымліваю інфармацыю і заданні. Пытаюся: "А чаму наша дзейнасць вас так раздражняе?" – "Вы тут збіраецеся па беларускай тэматыцы, а нашыя бачаць гэта і таксама робяць мітынгі, гэта трыгер для пратэстаў, звязаных з Навальным". Сэнс быў такі, што мы падаем дрэнны прыклад расійцам. І яшчэ такія словы былі: "Вы змагаецеся за сваю краіну і сваіх людзей, а мы – за сваю". "За краіну ці за народ?" – "Усё зразумела, дамаўляцца не жадаеце. Тады прыйдзецца з'ехаць. У дачыненні да вас ужо ёсць крымінальная справа". – "Якая?" – "Вы ж разумееце нашы магчымасці, мы можам гэта як заўгодна аформіць".

– А ці быў варыянт, каб дамовіцца з імі?

– Так, наўпрост казалі: "Падзяліцеся інфармацыяй, і мы пабудуем дыялог". Хацелі ведаць, з кім я звязаны, якім чынам трымаю сувязь.

– Яны сапраўды лічаць, быццам ёсць нейкая змова, нейкая заходняя кантора, якая кіруе пратэстам?

– Мне падалося, што сапраўды. Паводле іхнай версіі, намі кіруе офіс Ціханоўскай або нейкая іншая арганізацыя, а я з ёй звязаны, і праз мяне паступаюць указанні для пратэстоўцаў. Гэтая тэма гучала цягам дзвюх гадзін, да яе вярталіся літаральна праз кожныя дзесяць хвілін.

– Што было далей?

– Праз тры дні патэлефанавалі: "Добры дзень, як вашы справы? Ці збіраеце рэчы?" На наступны дзень яшчэ адзін званок, зноў ад іх: ці я ўжо купіў квіток? Я зразумеў, што далей чакаць небяспечна. Калі праз пару дзён не паеду, дык мне дапамогуць. А дапамогуць – гэта азначае дэпартацыю ў Беларусь, дзе мяне дакладна нічога добрага не чакае. Раніцай я сабраў рэчы і "на пераклaдных", аплочваючы ўсе выдаткі толькі наяўнымі, даехаў да мяжы з Украінай. Адтуль – у Польшчу, я меў гуманітарную візу".

Як і ў гісторыі Ланы, у аповедзе Руслана не фігуруе ніводнай паперкі, усё на словах. Яго нават звольнілі па тэлефанаванні:

"Патэлефанавалі з праваахоўных органаў, сказалі, што трэба цябе звольніць". Зразумела, для чаго гэта робіцца. Каб нельга было звярнуцца ў прэсу, каб не было што аспрэчыць праз суд.

Зразумела, чаму яны так напалоханыя. Навідавоку прыклад Уладлена Лася, юрыста ФБК (Мінюст прызнаў арганізацыю замежным агентам), якога ў студзені вывезлі ў Беларусь з мяшком на галаве. А ў Беларусі такіх людзей, як Лана і Руслан, чакаюць катаванні і смерць.



Руслан Хазін каля амбасады ў Маскве. Фота з асабістага архіву

І ёсць яшчэ адна важная гісторыя, якая зараз прыцягнула ўвагу. Працэс экстрадыцыі чатырох беларусаў: Прылуцкага, Кудзіна, Шабалюка і Казімірава. Усе чацвёра цяпер у СІЗА, трое ў Маскве, адзін у Піцеры. Кожнага на радзіме чакаюць сур'ёзныя тэрміны за ўдзел у пратэстах. Яны звярнуліся па палітычны прытулак да расійскіх уладаў, але замест прытулку трапілі ў турму.

І Лана, і Руслан спрабавалі і спрабуюць ім дапамагчы. Арганізоўвалі перадачы, распаўсюджвалі інфармацыю праз СМІ. Пільная ўвага ў дачыненні да іх, напэўна, была яшчэ і праз гэта. Больш за тое, яны звярталіся да дэпутатаў і чыноўнікаў, прасілі заступіцца, і гэта таксама, напэўна, выклікала раздражненне. Лана да гэтага часу не хоча верыць, што расійская дзяржава на баку Лукашэнкі. Для яе і для многіх іншых усё залежыць ад таго, як цяпер абыдуцца з гэтымі чатырма. Выдадуць – тады ўсё, канец, з Расіяй усё зразумела. Не выдадуць – значыць, яшчэ не ўсё страчана. Астатняе – драбяза, можна і пацярпець. Беларусы – вельмі цярплівыя людзі.

Між тым, прэсінг ідзе поўным ходам. Неабавязкова гэта дэпартацыя, спосабаў ціску шмат. "Нашу дзяўчыну цягалі на Лубянку, – расказвае Лана, – схілялі да падпісання паперы аб супрацоўніцтве. Хтосьці вытрымлівае такое, хтосьці ламаецца. Але я нікога не асуджаю, кожны мае сваю мяжу ўпартасці, "заўзятасці", як кажуць беларусы.

– Ці шмат такіх прыкладаў? Які наогул маштаб бедства?

– Я ведаю самае малое дзесяцёх, але ўсяго, напэўна, больш. Людзі не любяць расказваць пра такое. Проста бачна: вось чалавек актыўны, а вось нешта з ім адбылося, і ён рэзка сыходзіць у цень. Як падмянілі, адразу: "Усё-усё, ніякай палітыкі…" Яшчэ адну дзяўчынку папярэджвалі знаёмыя, былыя сілавікі: "Ты ходзіш па тонкім лёдзе". І такога шмат, асабліва цяпер.

Новы кейс – справа дзвюх дзяўчат, якія фатаграфаваліся з БЧБ-сцягам 31 студзеня. Насці М. і Ларысе Н. прысудзілі ў лютым штрафу 10 тысяч, ды тае бяды. Але ўжо падчас суду іх папярэдзілі, што могуць быць праблемы з міграцыйнымі службамі. І не зманілі. Насця паехала ў Сахарава падавацца на від на жыхарства, там яе адразу ж праверылі па базе і нават не прынялі дакументы. "Вырашайце спачатку свае праблемы з МУС". – "А што здарылася?" – "Вам на 40 гадоў забаронены ўезд у РФ". На 40 гадоў. Да 2061 году. За фатаграфію.

Якія страшныя людзі гэтыя беларусы, небяспечныя. Але чаму за іх так узяліся менавіта зараз, а перад гэтым некалькі месяцаў амаль не чапалі? Відаць, справа ў Навальным.



Хтосьці наверсе моцна перакананы, што сілы зла спрабуюць рэалізаваць у Расіі беларускі сцэнар. Беларусь – роўна Навальны. Гучыць гэта бязглузда, і можна было б пасмяяцца, каб не дзясяткі людзей, якіх выганяюць з краіны, запалохваюць, праслухоўваюць.

А самае галоўнае, што ўсё гэта абсалютна пазбаўлена сэнсу. Колькі грошай траціцца дарма, колькі часу, колькі высілкаў. За мінулы год кавід навучыў людзей, што многія рэчы можна рабіць праз інтэрнэт, а не асабіста. Дамаўляцца з адвакатамі і збіраць дапамогу рэпрэсаваным з Варшавы не больш складана, чым з Піцера і Масквы.

А ў нейкім сэнсе нават прасцей: дакладна ведаеш, што па цябе не прыйдуць. Ютуб-каналы, тэлеграм-каналы, стрымы – спыніць усё гэта немагчыма. Што мусіць здарыцца, таго не абмінеш. Вось толькі крыўдна, што Расія ў гэтай гісторыі выступае ў ролі паліцэйскага цэрбера. Гэта відавочна не на карысць нашаму іміджу.

Лана так і сказала мне:

– Сваёй мэты яны не дасягнулі. І мне здаецца, што не дасягнуць. Спачатку, вядома, быў шок, але калі я прыехала ў Варшаву, то вольна ўздыхнула, развязаліся рукі. Пакуль я знаходзілася тут, мы ўжо сабралі грошы на тое, грошы на сёе, дапамаглі таму, зрабілі гэта…

– А як жа барацьба з рэжымам?

– А мы не хістаем рэжым і ніколі не хісталі. Мы дапамагаем тым, хто ад яго пацярпеў.

**Ян Шэнкман, "Новая Газета", пераклад Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

гутарка

# Беларуска з Каліфорніі: НАША ДАРОГА ПА ПАБУДОВЕ НОВАЙ БЕЛАРУСІ ТОЛЬКІ ПАЧАЛАСЯ, І МЫ ЯШЧЭ САМІ БУДЗЕМ ЗДЗІЎЛЯЦЦА, НА ШТО МЫ ЗДОЛЬНЫЯ

Надзея Нортан – мінчанка, якая ўжо 10 гадоў жыве ў каліфарнійскім горадзе Санта-Круз. А яшчэ яна нефармальны лідар згуртавання беларусаў Сан-Францыска, натхняльніца, арганізатар і непасрэдная ўдзельніца дзясяткаў акцый салідарнасці з Беларуссю.



Пра тое, як каліфарнійскія беларусы перайшлі ад культурніцкіх спраў да палітыкі, ці складана "запусціць" санкцыі і што яднае людзей, нягледзячы на часовую і геаграфічную адлегласці, Надзея распавяла ў інтэрв'ю "Салідарнасці".

– Яшчэ 9 жніўня, у дзень выбараў, мы бясспрэчна ведалі, што выйдзем у знак салідарнасці, бо ніхто не мог сядзець дома і ўсім было важна знаходзіцца разам. На жаль, у Каліфорніі няма магчымасці прагаласаваць – тут няма беларускіх амбасад і консулятаў.

Аднак некалькі чалавек з нашай суполкі, ведаю прынамсі пяцёх, паехалі ў Нью-Ёрк і Вашынгтон, і бралі там вельмі актыўны ўдзел у працэсе выбараў – двое нават былі назіральнікамі ў Вашынгтоне…

Мы тым часам проста сабраліся разам і праглядалі ў тэлефонах, што ж там адбываецца ў Беларусі. На адзін з забароненых на сёння тэлеграм-каналаў праз нейкія проксі-серверы ўсё ж даходзілі звесткі пра тое, што адбываецца. Спярша была разгубленасць – ты глядзіш на здымкі параненых людзей, на відэазапісы з выбухамі святлашумавых гранат, і думаеш, што гэта не можа быць праўдай, але разам з тым знаходзіш гэту інфармацыю на тым рэсурсе, які не будзе ў падобнай сітуацыі хлусіць…

Пасля быў вельмі цяжкі перыяд, з якім сутыкнуліся, напэўна, усе беларусы ва ўсім свеце – але, канешне, перадусім у самой Беларусі – немагчымасць звязацца з сябрамі, даведацца, што з імі. Бо мы ж прызвычаіліся па мэсэнджарах хутка звязвацца, а тут сувязі няма, ніякай, і ты не ведаеш, што рабіць. У нас было, мабыць, нават больш інфармацыі ў параўнанні з вамі. Хай некалькімі радкамі, але звесткі паступалі, агульная карціна вымалёўвалася і было зразумела, што прычына не ў тым, што, крый Божа, усіх забілі, а ў тым, што адключаны, заблакаваны інтэрнэт.

Спачатку было адчуванне бездапаможнасці.

– Думаю, як і ўсе беларусы ў свеце, мы былі вельмі ўзрушаныя – хацелася нешта зрабіць, дапамагаць, выказацца. Пасля ўсіх навін з Беларусі мы не маглі спаць: хто чытаў навіны, хто перасылаў грошы родным, але было відавочна, што трэба выходзіць і нешта рабіць, – згадвае Надзея. – Хацелася чагосьці такога паяднаўчага, каб паказаць: мы – ёсць, мы – разам.

У тэлеграме прапанавалі зрабіць вялізны сцяг, і ад гэтай прапановы да рэалізацыі прайшло менш за суткі. Адразу сабралі грошы, знайшлі і краму, дзе была вялікая колькасць патрэбнай тканіны, і машыну, каб усё прывезці, і швейную машынку, і памяшканне.

– Утрох нашы "беларускія ткачыхі з Сан-Францыска", дзве Кацярыны і Крыстына, дзесьці за 12 гадзін пашылі – уявіце сабе – 25-метровы сцяг. Тыя, хто шые, мяркую, разумеюць, які быў велізарны імпэт, каб за такі невялікі прамежак часу зрабіць гэта. Быў забаўны момант, мы пісалі: "Як ідзе справа?" – адказвалі: "Усё добра, стадыя Польшча" – і даслалі фота, дзе ўжо сшытыя адна белая і чырвоная палосы.

15 жніўня мы выйшлі ў Сан-Францыска – гэтае месца называецца плошча Гары Брыджыс ля Эмбаркардэра, яна стала цэнтральнай пляцоўкай для акцый салідарнасці з Беларуссю – і пад "Пагоню" дзясяткі беларусаў вынеслі сцяг. Было настолькі неверагодна ўзрушальна і моцна, што ўсе проста плакалі. Нас як суполку гэта аб'яднала назаўжды – мы нібы ўзняліся ў беларускі космас, у якім няма меж, і адчулі гэту еднасць з беларусамі ў Беларусі.

### Мядзведзь на сцягу

…Да лета 2020-га, гаворыць Надзея, яна меркавала, што згуртаванне беларусаў Сан-Францыска і Бэй-Эрыа (велізарная метраполія вакол заліва Сан-Францыска) налічвае "чалавек 150". Але на акцыю 15 жніўня выйшлі каля 500 чалавек, а агулам тых, хто ўсвядоміў сябе беларусам і захацеў далучыцца да суполкі ў тым ці іншым выглядзе, каля 600-700. Далейшыя акцыі салідарнасці – а іх за гэты час адбылося звыш 40, у тым ліку мітынгі, перформансы, марафоны, аўтаралі, мастацкія выставы – трывала збіраюць не менш чым 200 чалавек кожная. І гэта ва ўмовах лакдаўну!

– Даволі багатая і разнастайная праграма ў нас атрымалася 10 кастрычніка, калі правялі шэраг розных актыўнасцяў – у тым ліку аўкцыён. На ім прадалі, напрыклад, адмыслова пашыты Кацяй Качаровай "жаночы варыянт" сцягу – з завязкамі, якія можна замацаваць на шыі, а сцяг вельмі хораша ляжыць на спіне, і рукі вольныя. Яго набыла беларуская сям'я Бернат за 250 даляраў і ён зараз "жыве" ў Сіэтле.

Ідэя аўкцыёну нарадзілася раптоўна: да мяне ў сеціве звярнуўся беларус, прадставіўся ні больш ні менш як Тадэвушам Касцюшкам і распавёў, што ў яго ёсць шэсць дыванкоў – ведаеце, такія круглыя, самавязаныя – іх зрабіла яго 95-гадовая бабуля, якая жыве пад Дзяржынскам, і даслала ўнуку. Вось гэтыя дыванкі паклалі пачатак аўкцыёну – першы пайшоў танна, здаецца, за 40 даляраў, а потым мы разышліся, і апошні, мабыць, быў куплены пад 300 даляраў. І гэта было выдатна.

Таксама ў той дзень у нас прайшоў "марш раёнаў" – спецыяльна раздрукавалі вялікія банеры-сцягі раёнаў, выявы якіх я прасіла ў саміх беларускіх суполках, бо віртуальнага музею сцягоў на той момант яшчэ не было. Я сама з Камвольнага, таму несла "Камвольную грамаду" з бусламі.

У беларусаў Каліфорніі ёсць уласны сцяг – чырвоны мядзведзь на белым фоне. Яго прыдумала дызайнерка Ганна Аляксеева, якая жыве ў Бэй-Эрыа. Яна ж аўтарка праекту Maya Mova, на інтэрнэт-старонцы якога можна набыць разнастайны мерч, ад кубкаў да швэдраў, іншыя сувеніры, звязаныя з беларускай тэматыкай, а ўвесь прыбытак Ганна дасылае на падтрымку пацярпелых ад рэпрэсій у Беларусі.

– Вельмі запомніўся вечар, калі мы даведаліся пра забойства Рамана Бандарэнкі. Хоць і быў будны дзень, чалавек трыццаць ці сорак сабраліся недалёка ад Сіці-Хола ў Сан Францыска, там ёсць мемарыяльнае месца, куды прынеслі багата кветак, знічы, спявалі "Купалінку" і дзяліліся перажываннямі.

**– Ведаю, што акрамя акцый салідарнасці і культурніцкіх практаў, вы збіраеце і матэрыяльную дапамогу беларусам?**

– Паколькі тут, у Каліфорніі, жывуць людзі даволі заможныя, якія працуюць на такіх гігантах як Apple, Google, Facebook і іншых, то данаты, якія яны робяць, – проста космас.

Напрыклад, на нашу новую ініцыятыву падтрымкі двароў, якую робім сумесна з BYSOL, з 16 чалавек двое "заданацілі" па тысячы даляраў. Мы пакуль у самым пачатку, але, спадзяюся, гэта ініцыятыва беларусаў Каліфорніі па падтрымцы двароў будзе развівацца, людзі з імпэтам пераводзяць даволі вялікія грошы.

Ведаю, што гэты працэс няспынны, ён ідзе ўвесь час. Нават на самых першых мітынгах нам удалося сабраць дзве тысячы даляраў і перадаць іх праз ініцыятыву By_Help у Менск, ну і прыбытак з аўкцыёнаў, канешне, таксама ідзе на гэтыя мэты.

### З чаго пачынаюцца санкцыі

Адна з важных спраў, якая атрымалася дзякуючы беларусам замежжа, і ў тым ліку актыўнаму ўдзелу каліфарнійскай дыяспары, – падрыхтоўка "Акта аб дэмакратыі", то бок, увядзення ўрадам ЗША пакету санкцый.

Каб зразумець маштаб праведзенай працы, проста падлічыце: упершыню пытанне Акта ўзняў адзін з кангрэсменаў у 2001 годзе, і толькі праз 3 гады дакумент быў падрыхтаваны і атрымаў ухваленне Кангрэсу. Наступным разам для ўвядзення санкцый супраць уладаў і чыноўнікаў Беларусі таксама спатрэбілася некалькі гадоў. А летась беларуская дыяспара зрабіла тое самае за рэкордныя 3 месяцы.

– Гэта, натуральна, беспрэцэдэнтны выпадак. У нас ёсць крыху статыстыкі, – расказвае Надзея, – за апошні этап, калі трэба было актыўна "націснуць" на кангрэсменаў, найперш гэта значыць дасылаць ім лісты з запытамі. Дык вось, прыкладна з тысячы лістоў толькі з Каліфорніі прыйшло 700!

Часам для правільнага выканання працэдуры звароту было неабходна, каб чалавек жыў у пэўным дыстрыкце, і запыт сыходзіў менавіта адтуль. І гэта быў проста неверагодны прыклад таго, як працуюць гарызантальныя сувязі – вельмі хутка праз нашую групу "Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй" знаходзілі людзей, расказвалі ім, што трэба рабіць, каб звярнуцца да сенатара, і тыя адразу пагаджаліся дапамагчы, рабілі ўсё патрэбнае.

І зараз, наколькі я ведаю, ідзе вельмі цяжкая, але неабходная праца над санкцыйнымі спісамі. У Каліфорніі таксама ёсць вялікая колькасць прадпрыемстваў, "замазаных" супрацоўніцтвам з рэжымам, адзін з вядомых кейсаў – кампанія Sandvine (яна пастаўляла ў Беларусь абсталяванне, што дазваляла фільтраваць інтэрнэт-трафік – "С".). Дзякуючы таму, што яны не паспелі зарыентавацца і вымушаныя былі прызнаць сваю датычнасць да блакіровак інтэрнэту, і ціску з боку амерыканскай дыяспары, гэтая кампанія адклікала сваю дамову аб супрацоўніцтве і перапыніла ўжо заключаны кантракт.



Такі ціск працягваецца і зараз у дачыненні шэрагу кампаній – у сферы інфармацыйных тэхналогій гэта каля 12 кампаній, якім мы дасылаем лісты, а дзякуючы прыняццю Акта аб дэмакратыі, дзе прапісаныя ўсе гэтыя рэчы, кампаніям будзе вельмі цяжка выслізнуць і працягваць кантракты, аформленыя, напрыклад, праз падстаўных асоб.

**– У Беларусі ідэолагі любяць паўтараць: маўляў, хочаце, як у ЗША? Так там масавыя пратэсты разганяюць больш жорстка, і нават людзей забіваюць…**

– Гэта элементарная спроба перакуліць сітуацыю з ног на галаву. Вось, глядзіце: у Каліфорніі сітуацыя з каранцінам супраць кавіду значна больш жорсткая, чым яшчэ дзе ў ЗША – рэстарацыі не працуюць, усё зачыненае. Але. Ёсць пятая папраўка, якая гарантуе свабоду слова, сходаў і нават каранціны і кавіды не могуць адмяніць – пратэсты па палітычных і рэлігійных матывах можна ладзіць, і ніхто з гэтым нічога не можа зрабіць.

Адзінае патрабаванне – каб удзельнікі былі ў масках і вытрымлівалі сацыяльную дыстанцыю. Ёсць закон, ён працуе, і ты маеш поўнае права выкарыстаць яго ў сваіх мэтах – таму былі магчымыя і Black Live Matters з удзелам сотні тысяч людзей.

Тое самае мы адчулі на сабе. Ніводнага разу паліцыя не падыходзіла, каб нас разагнаць, колькі б нас ні было – ці 200 чалавек, ці 500, хіба правяралі з пункту гледжання нашай бяспекі, што ўсё ў парадку, сацыяльная дыстанцыя па магчымасці вытрымліваецца. У нас была акцыя-шэсце праз знакамітую Залатую Браму (гэты мост – адна з галоўных славутасцяў і сімвал Сан-Францыска – "С".), па якім праходзіць шаша, машыны едуць адносна няхутка і людзі могуць прачытаць, што напісана ў цябе на плакаце.

Напярэдадні менеджар Golden Gate Bridge папрасіў звязацца з ім і проста растлумачыў мне правілы паводзін – напрыклад, што менавіта там нельга ісці з палкамі, яшчэ нейкія абмежаванні, якія датычацца бяспекі. Апрача гэтага ды каранцінных рэалій, паўтаруся, ніякіх перашкод і абмежаванняў нам не было.

**– Як ставяцца да вашых ініцыятыў вашы блізкія – муж, сваякоўка, амерыканскія сябры?**

– Яны ганарацца мной. Муж рады, што я такі патрыёт сваёй краіны, і вельмі падтрымлівае мяне. Ён вырашыў, што не будзе прыходзіць на акцыі – ізноў-такі, гэта звязана з кавідам, дый ён не публічны чалавек. Але ж гэтая праца вымагае вельмі шмат часу. І хоць я не працую ў офісе па раскладзе, звыклым для большасці людзей, і магу займацца грамадскай дзейнасцю, але хто забяспечвае мой тыл? Канешне, мой муж! Ён бачыць, чаго гэта каштуе мне, як я прыносіла з акцый і згружала ў свайм пакоі мегафоны, сцягі, расцяжкі і ўсё астатняе – і цярпіць гэта, называе мой пакой "Free Belarus Staff".

Тое ж самае датычыцца свекрыві, і ўсёй маёй амерыканскай сям'і. Пасля жнівеньскіх падзей яны былі вельмі ўзрушаныя, а зараз, канешне, ведаюць, што я раблю, і ганарацца мной, і ўсе маюць бел-чырвона-белыя сцяжкі, якія мы тут нарабілі амаль у прамысловай колькасці. Дзядзька мужа, ужо даволі сталы чалавек, некалькі разоў адмыслова перасылаў па 100 даляраў з прыпіскай: "Я хачу падтрымаць тваю краіну, перадай, куды лічыш патрэбным".

### Сны аб Беларусі

Хутка беларусы Каліфорніі збіраюцца – ужо ў пяты раз – адзначыць Дзень Волі, плануюць правесці шэсце і мітынг, зладзіць сумесныя спевы са знакавымі беларускімі песнямі.

А яшчэ, нягледзячы на лакдаўн, 27 сакавіка ў прыватнай галерэі ў Сан-Францыска адкрыецца мастацкая выстава, прысвечаная беларускаму пратэсту FACE IT: Faces of Belarusian protest – арганізаткі выставы некалькі беларусак з нашай суполкі, якія працуюць, або зацікаўленыя сучасным беларускім пратэсным мастацтвам.

**– Цягне прыехаць у Мінск?**

– Вельмі, але зараз гэта немагчыма зрабіць і праз "карону", і праз палітычныя прычыны. Я мусіла прыехаць на Беларусь год таму, на 13 траўня ў мяне загадзя быў набыты квіток, хацела правесці на радзіме ўсё лета – і тут усё зачынілася і перапынілася…

Але, ведаеце, мы амаль сур'ёзна літаральна днямі абмяркоўвалі: калі прыйдзе перамога, ці не замовіць нам чартарны рэйс і ўсім паляцець разам у Беларусь. Гэта мара, тое, аб чым мы гаворым практычна штодня: як будзем тут святкаваць, як прыедзем і абдымем сяброў. Каго ні спытаю – людзі, нават тыя, хто эміграваў вельмі даўно – 20, 30, 40 гадоў таму – вельмі чакаюць такой магчымасці, калі сыдзе гэтая навала. І, думаю, калі ўсё нарэшце адбудзецца, у Беларусь будзе не так проста і трапіць, а турыстычны бізнес перажыве проста небывалы ўздым і росквіт.

Тут, у ЗША, жыве вельмі многа людзей, пакрыўджаных беларускім рэжымам, якія доўгі час не хацелі згадваць і мець штосьці агульнае з гэтай краінай. Але 2020 год перавярнуў свядомасць – столькі людзей хочуць перамен, столькі ўкладаюць, хто што можа, у пабудову гэтых перамен, што проста немагчыма, каб гэтага не адбылося. Як тут кажуць, it is inevitable.

Вельмі радая, што я наведваю Беларусь, Менск даволі часта ў снах – гэта і радасць, і роспач адначасова, плачу ад пачуццяў. Тыдні з два, можа, крыху больш, быў сон, мне здаецца, прарочы. Быццам я еду, са сваёй сённяшняй свядомасцю, у Беларусь, дзе вельмі холадна, яна пакрытая снегам, нікога няма на вуліцах, бо людзі сядзяць па кватэрах. Але я прыязджаю і бачу зусім іншую карціну: лета, вельмі цёпла, людзі сядзяць на зялёнай траўцы, проста на вуліцах цалуюцца, абдымаюцца – і такая радасная, цудоўная атмасфера, а ў мяне поўны дысананс унутры. Спадзяюся, у тым сне я бачыла будучыню.

…Што, на мой погляд, вельмі важна – сыходзіць у нябыт адно з істотных абмежаванняў, якое існавала раней: калі ты з'ехаў, то ўжо як быццам і не беларус, не маеш дачынення да краіны. Зараз гэтага няма, прыйшло іншае ўсведамленне, новае: я беларус незалежна ад таго, дзе я жыву, і я магу пабудаваць сваю Беларусь там, дзе я ёсць.

Людзі да гэтага гатовыя, і я веру, што запушчаныя раней працэсы будуць развівацца, што наша дарога па пабудове новай Беларусі толькі пачалася, і мы яшчэ самі будзем здзіўляцца, на што мы здольныя.

**Вікторыя Целяшук, "Салідарнасць"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# СКРАЎ МІЛЬЁНЫ МАРАК, ВЫКЛІКАЎ ЛУЦКЕВІЧА НА ДУЭЛЬ, НАПІСАЎ "ВАЯЦКІ МАРШ"

Што мы ведаем пра Макара Краўцова, аўтара гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"? Чаму ён варагаваў з Луцкевічам? Навошта насамрэч яму былі шматлікія псеўданімы? Чаму сям'я жыла ў галечы?..




На гэтыя ды іншыя пытанні дае адказы зборнік "Макар Краўцоў (Касцевіч)", які выйшаў пад рэдакцыяй Лявона Юрэвіча ў выдавецтве "Кнігазбор" у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Кніга больш як на 200 старонак сёння з'яўляецца самым поўным апісаннем не толькі жыццёвага шляху галоўнага героя, але таксама змяшчае яго вершы, успаміны, літаратурную крытыку.

Пагартаем старонкі зборніка, каб бліжэй пазнаёміцца з Краўцовым – авантурыстам, рамантыкам і патрыётам сваёй краіны.

### Касцевіч ці Краўцоў?

Сапраўднае імя нашага героя – Макар Касцевіч. Яго сям'я паходзіла з Берштаў каля Гродна. Псеўданім "Краўцоў" з'явіўся праз прафесію ягоных продкаў – краўцоў. Літаратуразнаўцы спрачаюцца як пісаць правільна: "Краўцоў Макар" ці "Макар Краўцоў"? Сам аўтар выкарыстоўваў першы варыянт, дзе "Краўцоў" мае адказваць на пытанне "чый?".

Былі і іншыя псеўданімы: Макар, Язэп Светазар, Дзын-Дзылін, Званчык, Picolo, Smreczyński. Здаецца, звычайная практыка таго часу, дзе Ластоўскі быў "Властам", Яўген Скурко – "Максімам Танкам" ці "Гранітам". Насамрэч праз канфлікты з "беларускай тусоўкай" Вільні 1920–1930-х Касцевіч проста быў змушаны карыстацца псеўданімамі, каб не адмовілі ў друку.

### "Я под видом мягких лайковых перчаток..."

У зборніку ёсць успаміны Краўцова пра 1-ы Усебеларускі з'езд у снежні 1917-га: жывыя, трывожныя, хоць ты ўкладай у кінасцэнар! "Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Ня было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца", – піша Краўцоў, які прыехаў на з'езд акурат з фронту.

Шмат яскравых апісанняў. Як Рак-Міхайлоўскі падчас прамовы спрабаваў гаварыць па-беларуску, але ўрэшце ўсё ж збіўся на расійскую. З магілёўскай дэлегацыі, як выявілася, мовай наогул ніхто не валодаў. Жанчын на з'ездзе было ўсяго некалькі: паводле Краўцова, яны глядзеліся "сіратліва".

Краўцоў весела піша пра бальшавікоў на з'ездзе. Камісар Рэзаўскі спрабаваў зняць бел-чырвона-белы сцяг, які вісеў ля трыбуны, але яго вынеслі з залы "два здаравяцкія матросы". Бальшавікі на з'ездзе былі п'яныя. Начальнік гарнізона Крывашэін, напрыклад, выступіў з такой прамовай: "Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели..."

### "Дэлегаты барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум"

Пасля было не да смеху. Няпраўда, што бальшавікі распусцілі з'езд з маўклівай згоды ўдзельнікаў. Краўцоў піша: "...узброеныя салдаты Рамнёва, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты спраціўляюцца, настаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыум.

Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рамнёў вымае з пахвы рэвальвэр, паднімае ўгару і колькі разоў націскае цынгель... Усё бачанае апісаць немагчыма... Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў..."

Наступная сцэна ўжо на вуліцы начнога зімовага Мінска: "На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай (Чырвонаармейская і Маркса – аўт.) – ваякі на белых конях... Два панцырнікі грозна маўчаць. Паход разагнанага Зьезду скіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады – будынку Камэрцыйнае Школы...

З тысячы грудзей разлягаецца матыў хаўтурнага марша: "Вы жертвою пали в борьбе роковой..." З заміраньнем гукаў чужое трагічнае песьні гінула воля народная, сярод мяккае зімовае ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства..."

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**

Заканчэнне артыкула чытайце на сайце zbsb.org

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2021 года

**4 красавіка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Васіль Русак, палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага Збройнага Чыну. Загінуў у 1946-м.

**7 красавіка**
- 15 гадоў таму, у 2006-м, памёр Кастусь Мыслівец, палітычны дзеяч.

**9 красавіка**
- 75 гадоў таму, у 1946-м, у Міхельсдорфе з ініцыятывы Наталлі Арсенневай і Юркі Віцьбіча створана Беларускае літаратурнае згуртаванне „Шыпшына".

**14 красавіка**
- 90 гадоў таму, у 1931-м, памёр Віктар Вальтар, пісьменнік.

**16 красавіка**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзілася Зоя Коўш, нацыянальная дзяячка ў Вільні. Памерла ў 1994-м.

**17 красавіка**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Язэп Варонка, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1952-м.
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Сымон Шаўцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменнік. Памёр у 1999-м.

**18 красавіка**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Лявон Гмырак (сапр. Мечыслаў Бабровіч), празаік. Загінуў у 1915-м.

**19 красавіка**
- 140 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Усевалад Ігнатоўскі, гісторык. Загінуў у 1931-м.

**23 красавіка**
- 135 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Змітрок Бядуля (сапр. Самуіл Плаўнік), пісьменнік. Памёр у 1941-м.
- 30 гадоў таму, у 1991-м, памёр Дзмітрый Касмовіч, дзеяч нацыянальнавызваленчага руху і эміграцыі ў Бельгіі і Нямеччыне.

**24 красавіка**
- 15 гадоў таму, у 2006-м, у Нью-Ёрку памерла Вера Бартуль (дзяв. Касцюкевіч), дзяячка эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША.

**25 красавіка**
- 75 гадоў таму, у 1946-м, у Рэгенсбургу адбыліся асвячэнне і першая багаслужба ў беларускай праваслаўнай царкве.

**26 красавіка**
- Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986)

**27 красавіка**
- 15 гадоў таму, у 2006-м, памёр Міхаіл Вітушка, генерал, кіраўнік беларускага супраціўлення ў другой палове 1940–1950-х гг.

**29 красавіка**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Мікола Ермаловіч, гісторык. Загінуў у 2000-м.
- 90 гадоў таму, у 1931-м, памёр Яўхім Карскі, мовазнавец, этнограф, заснавальнік навуковага беларусазнаўства.

Пакіньце адрас сваёй пошты ў адмысловай форме
на галоўнай старонцы сайту zbsb.org,
каб чытаць штотыднёвую рассылку
найбольш важных навінаў
з жыцця беларускага замежжа
і Бацькаўшчыны.

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (226), красавік 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27